# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзённаамэрыканскія краіны»: год — 25 н. м.; паўгода — 12,5 н. м.; **ЗША й Канада:** год — 13 дал.; паўгода — 6,5 дал.; **Ангельшчына й Аўстралія:** год — 60 шыл.; паўгода — 30 шыл.; **Францыя:** год — 25 н. ф.; паўгода — 12,5 н. ф. **Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 6 (590) Мюнхэн, Нядзеля 25-га сакавіка 1962 г. — München, Sonntag, 25. März 1962. ГОД ВЫДАНЬНЯ 16


# Гістарычная неабходнасьць

Якраз у гэтыя дні канчаткова вырашаецца лёс Альжыру. Пасьля шматгадовага крывавага й бескампраміснага змаганьня з альжырскімі паўстанцамі, урадавыя колы й пераважная бальшыня францускага грамадзтва ўсьведамілі сабе ўсю бязглуздасьць і беспэрспэктыўнасьць спробаў стрымаць гістарычны працэс. Альжыр стае на шлях свабоднага будаваньня свае дзяржаўнасьці. Мала таго: памагаць пры гэтым яму будуць ягоныя былыя калянізатары...

Сяньня, адзначаючы 44 ўгодкі абвешчаньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі, прыгаданы вышэй факт набывае для нас асаблівую, бадай сымбалічную вагу. З аднаго боку — поўная эманцыпацыя былых каляніяльных народаў, зь якіх многія яшчэ няздольныя будаваць сваю дзяржаўнасьць самі. З другога — здушваньне справядлівых імкненьняў да свабоды і незалежнасьці народу, які даўно ўжо дасьпеў да самастойнага дзяржаўнага жыцьця, які ўжо 44 гады таму выразна й нядвузначна выявіў сваю волю аднавіць сваю нацыянальную дзяржаўнасьць.

Панявольнікі нам кажуць, што змаганьне за незалежнасьць вонках межаў іхнае імпэрыі — гэта справядлівае змаганьне. Імкненьні-ж да свабоды народаў, уціснутых у гэтак званую «братнюю сям'ю» — гэта рэакцыя, злачынства, вынік махінацыяў «заходніх імпэрыялістых». Гэтак-жа яны акрэсьліваюць і Акт 25-га Сакавіка, абвешчаны прадстаўнікамі беларускага народу 44 гады таму.

З аднаго боку — сьвятое змаганьне за свабоду, з другога — «чорная рэакцыя»...

Дзе праўда? Яна відавочная: змаганьне за свабоду — сьвятое ўсюды, дзе-б яно ні адбывалася.

Ёсьць адзін аспэкт нашай сучаснасьці, на якім варта спыніцца й прааналізаваць яго глыбей. Мы зьяўляемся сьветкамі апошняй стадыі ліквідацыі каляніяльных імпэрыяў, пабудаваных праўдай і няпраўдай на працягу стагодзьдзяў заходнімі мэтраполіямі. Штогоду, як грыбы пасьля дажджу, зьяўляюцца ўсё новыя й новыя незалежныя дзяржавы, зайздросныя за сваю новаздабытую свабоду. І аднaчасова — старыя дзяржавы, народы з шматвяковай, багатай дзяржаўнай традыцыяй, у тым ліку й былыя каляніяльныя мэтраполіі, шукаюць і знаходзяць шляхі да цеснага супрацоўніцтва, да эканамічнага дый палітычнага зьбліжэньня; зьбліжэньня, пра якое нельга было навет і думаць перад Другой сусьветнай вайной, а то й 15 год таму. Дзеля бліжэйшага супрацоўніцтва ў эканамічнай і палітычнай галіне гэтыя дзяржавы дабраахвотна ахвяроўваюць частку сваіх сувэрэнных правоў.

Парадокс! Ці ў сьвятле гэтых фактаў змаганьне за незалежнасьць паняволеных расейскім бальшавізмам народаў — а поўная незалежнасьць надалей застаецца цьвёрдай мэтай і непахісным ідэялам гэтых народаў — ці змаганьне гэтае зьяўляецца наагул мэтазгодным? Ці Акт 25-га Сакавіка далей павінен заставацца ідэялам для беларускага народу? Эўропа-ж ідзе па шляху штораз цясьнейшага задзіночаньня. У сучасны мамэнт яна знаходзіцца ў стадыі рэгіянальных хаўрусаў, але ўжо штораз галасьней чуваць дамаганьне стварэньня Задзіночаных Штатаў Эўропы.

Не — парадокс тут толькі на першы погляд. Змаганьне паняволеных народаў за незалежнасьць — гэта зусім апраўданы рацыянальны працэс: апраўданы як зь гістарычнага, так і з сацыялістычнага гледзішча. Нацыянальная незалежнасьць паняволеных народаў зьяўляецца гістарычнай неабходнасьцяй — перадумовай дзеля пабудовы на справядлівым фундамэньце грамадзтва і ў міжнародным маштабе. Формы міжнародных сувязяў і супрацоўніцтва — трывалыя й справядлівыя формы — могуць выпрацоўваць запраўды толькі свабодныя народы, сьведамыя таго, што іхныя культурныя й нацыянальныя правы загарантаваныя, што ім не пагражае узурпацыя з боку дужэйшага, што мы наглядаем ў расейска-бальшавіцкай турме народаў.

Ніхто з здаровым розумам ня можа адмаўляць неабходнасьці як найцясьнейшага міжнароднага супрацоўніцтва. Неабходнасьць гэтую дыктуюць дзяржавам меркаваньні навет чыста эгаістычныя — эканамічнага, палітычнага й сацыяльнага характару. Прыгледзімся бліжэй да рэчаіснасьці. Возьмем, прыкладам, Агульна-Эўрапэйскі Рынак. Спачатку гэта быў хаўрус шасьцёх краінаў з дакладна вызначанымі эканамічнымі мэтамі. Супрацоўніцтва ў галіне эканомікі неўзабаве й зусім натуральна ўзьняло праблему цясьнейшага ды больш скаардынаванага палітычнага супрацоўніцтва гэтых краінаў. І вось дзейнасьць і ўдачы Агульна-Эўрапэйскага **Рынку прымушаюць, у сваю чаргу, і іншыя краіны — у імя сваіх-жа, нацыянальных** інтарэсаў! — прыстасоўвацца ды шукаць формаў супрацоўніцтва, якія ім найлепш адпавядаюць. Паўтараем: гэта зусім натуральна. Але тут ня трэба забывацца пра самае істотнае — свабоду й незалежнасьць. Тут мы маем справу зь незалежнымі дзяржавамі, прадстаўнікі якіх выпрацоўваюць найбольш адпаведныя для іх усіх формы супрацоўніцтва, і формы гэтыя ня могуць быць прынятыя бяз згоды зацікаўленых народаў. Як-жа выглядае гэтая справа ў гэтак званай «братняй сям'і народаў» — у Савецкім Саюзе — ведама ўсім.

Цяпер возьмем новастваранwystęp незалежныя дзяржавы, прыкладам, у Афрыцы. Той, хто сочыць за палітычнымі падзеямі, ведае, што ня мінула й дзесяці год ад часу ўзьнікненьня гэтых дзяржаваў, а ўжо адбыўся цэлы шэраг канфэрэнцыяў, прысьвечаных цясьнейшаму эканамічнаму й палітычнаму супрацоўніцтву між імі. Як мы казалі, гэтыя новыя дзяржавы асабліва ўражлівыя ў пытаньнях, якія закранаюць іхную сувэрэннасьць — і гэта зноў-такі натуральна. Але яны таксама ведаюць, што міжнароднае супрацоўніцтва неабходнае, што гэта ляжыць у іхных-жа ўласных інтарэсах. І яны шукаюць найлепшых формаў гэтага супрацоўніцтва, будучы сьведамымі таго, што яны вольныя ў выбары як формаў, так і партнэраў, што ніхто ня можа накінуць ім свае волі, інакш кажучы — што яны незалежныя, сувэрэнныя. Навет прыгаданы намі Альжыр, яшчэ не здабыўшы канчальна незалежнасьці, плянуе ўжо цяпер цесны саюз з Тунісам і Мароккам — гэтак званы «Магрэб».

Бацькі аднаўленьня нашае нацыянальнае дзяржаўнасьці, творцы Акту 25-га Сакавіка, красамоўна даказалі палітычную сьпеласьць беларускага народу. Абвяшчаючы незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі, яны цалкам усьведамлялі сабе, што незалежнасьць зьяўляецца ня толькі перадумовай свабоднага разьвіцьця адзінкі й народу, але і плоднага супрацоўніцтва на міжнародным форуме. «Цяпер мы, Рада БНР, гаворыцца ў Трэйцяй Устаўной Грамаце,

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Непераможны ход гісторыі

Аб'ектыўныя людзі ўва ўсім сьвеце, назіраючы за разьвіцьцём дачыненьняў у сусьветнай грамадзкасьці, не запярэчваюць тых відавочных заканамерных працэсаў, якія характарызуюць нашу эпоху. Адным з такіх працэсаў зьяўляецца непаўстрымны рух народаў у кірунку вызваленьня, калі яны паняволеныя, у кірунку разьвіцьця і падняцьця свае духовае й матарыяльнае культуры да ўзроўню народаў найбольш цывілізаваных, калі яны становяцца запраўды свабоднымі. Гэты рух ведамы сяньня ўсяму сьвету пад назовам нацыянальнага вызваленьня, дэкалянізацыі. Найбольш адсталыя народы проста інстынктыўна ўлучаюцца ў яго, адчуваючы ў ім першую неабходную перадумову для свайго далейшага прагрэсу.

Прагрэсыўныя асобы й арганізацыі, прасякнутыя духам шчырага гуманізму, ставяцца да гэтага ня толькі із спачуваньнем, зразуменьнем і сымпатыяй, але прыкладаюць таксама ўсе сілы, каб заганы мінулых стагодзьдзяў у дачыненьнях паміж народамі, калі сільнейшы накідаў сваю волю слабейшаму, былі як найхутчэй зьліквідаваныя, і быў ачышчаны шлях для дасягненьня больш высокіх агульналюдзкіх ідэялаў.

У грамадзтве заходніх краінаў усе ўжо — ад палітыкаў да звычайных грамадзян — апрача раськіданых там-сям паадзінокіх ці групак закасьцянелых шавіністых і расістых — згадзіліся ў прынцыпе з тым, што права народаў на самавызначэньне й дзяржаўна-палітычную незалежнасьць не падлягае ніякай дыскусіі. Мы тут гаворым «у прынцыпе», бо ў запраўднасьці, нажаль, некаторыя заходнія дзейнікі ўсё яшчэ падыходзяць з рознай меркай да лёсу розных народаў.

**Усё** грамадзтва вольнага сьвету (апрача, зразумела, адзначанай намі катэгорыі) беззасьцярожна падтрымлівае і навет стымулюе эманцыпацыю каляніяльных і залежных народаў Афрыкі й Азіі. Стаўленьне-ж Захаду да праблемы вызваленьня народаў, паняволеных у камуністычнай імпэрыі, чамусьці не такое аднадушнае. Пазыцыю й прэстыж Захаду тут часта падрывае дзівосная палітыка «лагоднасьці» кіруючых колаў некаторых дэмакратычных краінаў у дачыненьні да... свайго сьмяротнага ворага — камунізму.

І запраўды. Мы ведаем, як беспасярэднія прадстаўнікі народаў — заходнія парлямантары — ня раз і не ў ваднэй краіне займалі й пацьвярджалі сваё цьвёрдае становішча ў пытаньні вызваленьня і ўстанаўленьня поўнай нацыянальнай незалежнасьці ўсіх паняволеных камунізмам народаў, у тым ліку й усіх народаў Савецкага Саюзу. Найбольш яскравы прыклад гэтага — Рэзалюцыя Амэрыканскага Кангрэсу ў справе Тыдня Паняволеных Народаў. Іншы прыклад: як паведаміла прэса: 1 сакавіка сёлета ў Парыжы была заснаваная «Ліга для самавызначэньня народаў». Ачольвае яе кіраўнік камісіі замежных справаў Нацыянальнага Сходу (парлямэнту) Францускай Рэспублікі — Морыс Шуман. У Лігу ўвайшлі таксама выдатныя дзеячы іншых эўрапэйскіх краінаў. Ліга мае на мэце актывізацыю парлямантараў Заходняй Эўропы, Задзіночаных Штатаў, Афрыкі й Азіі для працы над падтрыманьнем змаганьня дасьпелых да незалежнага дзяржаўнага жыцьця народаў за здабыцьцё або аднаўленьне іхнае незалежнасьці шляхам самавызначэньня.

Апрача праблемаў дэкалянізацыі апошніх афрыканскіх і азіяцкіх залежных тэрыторыяў, Ліга будзе займацца пытаньнямі каляніялізму й самавызначэньня народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Гэта новы актыўны крок заходніх парлямантараў у правільным кірунку. Іхнае становішча пасьлядоўнае: самавызначэньне й незалежнасьць для ўсіх.

Нажаль, інакш сябе трымаюць палітыкі, якія, відавочна, уважаюць, што ў іхнай прафэсіі не забавязваюць цьвёрдыя прынцыпы. Возьмем кіраўніка Дзяржаўнага Дэпартаманту Задзіночаных Штатаў — Раска. Ніхто яму не закіне, што ён супраць самавызначэньня й дзяржаўнай незалежнасьці афрыканскіх і азіяцкіх народаў. Але, закрануўшы нядаўна ў сваім выступленьні пытаньне падсавецкіх народаў, ён выказаў думку, што паняволеныя Масквой народы ў межах СССР зьяўляюцца быццам гістарычнымі складовымі часткамі савецкай дзяржавы. На падобныя «адкрыцьці» здабываюцца часам і некаторыя іншыя заходнія палітыкі. Ствараецца ўражаньне, што, каб сьхіліць Крэмль да маленькай уступкі ў палітычных розыгрышах або — што яшчэ больш трагічна — паўстрымаць яго ад чарговага наступальнага палітычнага кроку, гэтыя палітыкі гатовыя ахвяраваць ня толькі абвешчаныя вонкавапалітычныя прынцыпы, але й памагчы здушваць у сэрцах мільёнаў нерасейскіх народаў СССР надзею на іхнае вызваленьне. Асабліва сумна, што такія выказваньні выходзяць з вуснаў прадстаўніка краіны, якая, першай вызваліўшыся ад ангельскай каляніяльнай залежнасьці, карыстаецца рэпутацыяй запачаткавальніка эры антыкаляніялізму й піянэра вызваленьня паняволеных народаў.

Аднак Раск і да яго падобныя — фігуры пераходныя. Амэрыка-ж зь ейнымі палітычнымі традыцыямі — катэгорыя сталая. Супярэчныя духу часу выказваньні таго ці іншага ня зьменяць ходу гісторыі. Ня будуць яны мець уплыву і на лёс нашага беларускага народу. Беларускі народ перанёс ня толькі зьняважлівыя выказваньні на ягоны адрыс або поўную ігнаранцыю вонкавага сьвету да ягонага існаваньня. Ён перанёс стагодзьдзі жудаснай няволі і мужна пераносіць яе цяпер. І не загінуў! А гэта зьяўляецца гарантыяй таго, што ён і далей жыць будзе і дачакаецца таго часу, калі ў сваёй вольнай і незалежнай дзяржаве свабодна распрастае свае плечы і ў раўнапраўнай сям'і вольных народаў сьвету ўнясе свой годны ўклад у скарбніцу агульналюдзкай культуры й цывілізацыі.

М. К.

# «Акоў паломаных жандар»

У сваім санэце «Паміж пяскоў Эгіпецкай зямлі» Максім Багдановіч калісьці сказаў:

«... Зварушаны нарэшце дух народны,
Я веру, бясплодна не засьце,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца».

Навязваючы да гэтых радкоў нашага вялікага паэты, хацелася-б тут закрануць пытаньне бэшчаньня Масквой як Акту 25 Сакавіка, так і наагул беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

Нібы імкнучыся закаркаваць «крыніцу», што здолела прабіцца з пластоў зямлі, і гэтым самым здушыць «зварушаны дух народны», Масква, як ведама, ня толькі прыбягае да брутальнае сілы, у тым ліку й да фізычных рэпрэсіяў, але да ачарненьня й хвальшаваньня гісторыі нашага вызвольнага руху. Доўгія гады яна наагул забараняла ўспамінаць ці напамінаць пра Акт 25 Сакавіка й зьвязаныя з гэтым Актам падзеі на Беларусі. Гісторыя-ж беларускага народу паказвалася так, быццам-бы ні Акту 25 Сакавіка, ні беларускага вызвольнага руху зусім ня існавала. Узамен сплятаалася штучная гісторыйка пра так званыя «вялікія кастрычніцкія зрухі» ды пра «нацыянальнае адраджэньне», што прынесьлі Беларусам Ленін, Сталін і расейскі народ і г. д.

Апошнімі гадамі аднак Масква змушаная была крыху прыгадчыніць заслону, ведама, не для таго, каб аб'ектыўна азнаёміць зь беларускім нацыянальна-вызвольным рухам, але збэсьціць і ачарніць гэты рух у вачох беларускага народу. Ня будзем парушаць тыя прычыны, якія змусілі яе зрабіць гэта. Зазначым толькі, што сэрыя артыкулаў пра гэты рух беларускага савецкага гісторыка С. Маргунскага была зьмешчана ў беластоцкай «Ніве», другая сэрыя артыкулаў друкавалася ў «Настаўніцкай газэце». Гаварылася таксама пра гэты рух у некаторых бэсэсэраўскіх выданьнях, у тым ліку й афіцыйнай «Гісторыі БССР», ды навет зьявілася гістарычная аповесьць, урыўкі зь якое друкаваліся ў «Літаратуры й мастацтве».

Ува ўсіх гэтых хвальшыўках, асабліва ў «гістарычнай аповесьці», беларускі нацыянальны рух, у тым ліку скліканьне Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, дзейнасьць Рады Кангрэсу й Рады БНР, паказваецца як бяздарная гульня пару камэдыянтаў, выпушчаных на сцэну або пад вывескай «паноў», або пад вывескай польскіх і нямецкіх падхалімаў, што гэткім чынам жабруюць ламаны грош толькі дзеля таго, каб потым яго «прапіць» у сваім «прадажным» асяродзьдзі. Вялікі гонар ствараецца для гэтага руху, калі ён называецца «буржуазна-нацыяналістычным». Сам рух, Кангрэс, Рада й Урад БНР, ведама, заўсёды бяруцца ў чужаслоўе, пішуцца з малой літары ды ў дадатак надзяляюцца рознымі эпітэтамі, як «палітычная авантура», «падонкі грамадзтва», «агідныя лакеі таго ці іншага» (толькі не расейскага) імпэрыялізму, «здрадніцкія ўстановы» й г. д. Адпаведна накрэсьліваюцца й самыя падзеі. Дзеля ілюстрацыі прывядзём некалькі вытрымак:

«15 сьнежня 1917 г. контррэвалюцыйная Беларуская рада бязь ведама мясцовых органаў Савецкай улады склікала «Усебеларускі кангрэс» для вырашэньня пытаньня аб лёсе Беларусі... У вадказ на гэтае адкрытае выступленьне контррэвалюцыі супраць Савецкай улады Саўнаркам Заходняй вобласьці й фронту 16 сьнежня аб'явіў беларускі «кангрэс» распушчаным і прыняў меры да ліквідацыі ўзьніклай палітычнай авантуры...» («Гісторыя БССР», т. II, Менск, 1958, б. 71).

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Сталінізм 30-х гадоў у Беларусі

(Працяг з папярэдніх нумароў)

Апрача самагубства старшыні Вярхоўнага Савету БССР і СССР Алеся Чарвякова, яшчэ перад ім, трагічнай ахвярай сталінізму стаўся старшыня Саўнаркому БССР Мікола Галадзед. Галадзед ня быў арыштаваны, калі сакратар ЦК партыі абвесьціў яму, што ён здымаецца іх свайго становішча. На месца Галадзеда быў рэкамэндаваны другі сакратар ЦК Валковіч. Галадзед быў арыштаваны ў Маскве ці па дарозе ў Маскву і прывезены назад у Менск. У часе допыту ў менскім НКВД ён выкінуўся зь пятага паверху й забіўся на сьмерць. Выказваліся прыпушчэньні, што ў НКВД спэцыяльна былі створаныя абставіны для самагубства. Галадзед быў старшынём Саўнаркому блізу 10 гадоў, замяніўшы на гэтым становішчы Язэпа Адамовіча, які быў адкліканы зь Беларусі, а пасьля яжоўшчыны застраліўся. Галадзед меў нязвычайную памяць і здольнасьць кіраваць, адміністраваць. У Маскве ён умела і спраўна прасоўваў гаспадарскія пытаньні, што датычылі Беларусі, быў у добрых дачыненьнях з Молатавам, Варашылавам, Мікаянам, Арджанікідзе. Але ўсё гэта не ўратавала Галадзеда ад гібелі.

Прыйшоў чарод і на сакратара партыі Шаранговіча. Па нядоўгім часе на становішчы першага сакратара партыі ён быў арыштаваны. Пра долю ягоную можна было даведацца з маскоўскіх газэтаў. Шаранговіча судзілі з групай, на чале якое быў пастаўлены Бухарын. Судовы працэс адбываўся публічна, паведамленьні пра паседжаньні суду зьмяшчаліся ў друку. Шаранговіч разам зь іншымі падсуднымі быў засуджаны на сьмерць.

На месца зьнішчанага Шаранговіча Крэмль прыслаў на Беларусь на становішча першага сакратара нейкага Волкава. Уся ягоная «дзейнасьць» адбывалася якраз у часе яжоўшчыны. Волкаў не займаўся кіраваньнем, а быў проста памагатым НКВД і гэты «ганаровы» абавязак выконваў з асаблівай ахвотай і задавальненьнем. Новы партыйны сакратар быў з натуры жорсткім дэспатам з прыхваткамі чэкістага першых гадоў савецкай улады. Малакультурны й бессаромны, ён рабіў агіднае ўражаньне. Свой час праводзіў галоўна на розных мітынгах і сходах, на якіх «граміў ворагаў народу». Направа і налева раськідваў абвінавачаньні, прышпільваў абраным ахвярам розныя злачынствы, пераважна шпіянаж і шкодніцтва. Па гэткіх характарыстыках агентам НКВД даводзілася толькі падбіраць ахвяры ды кіраваць іх у падвалы.

У раёны Волкаў пасылаў супрацоўнікаў ЦК, што дзеілі там гэткім-жа самым мэтадам. Гэтыя пасланцы Волкава, так званыя інструктары ЦК, па прыбыцьці ў раён зьбіралі партыйныя сходы і тут-жа, зьвінаваціўшы абраную ахвяру ў шкодніцтве й шпіянажы, адбіралі партыйныя білеты. Рэштай займаліся агенты НКВД.

У часе яжоўшчыны асабліва агідную ролю выконваў і савецкі друк. Гэтак званыя газэтныя карэспандэнты шнырылі па розных установах і вынюхвалі абвінавальны матарыял. Гэтай справе памагалі асабліва загадчыкі сакрэтных аддзелаў наркаматаў і большых установаў. У бальшыні выпадкаў гэта былі сакратары камуністычных ячэйкаў. Назьбіраўшы сякога-такога матарыялу, газэта, асабліва ворган камуністычнае партыі «Зьвязда», ляпіла абвінавальны артыкул, поўны розных выдумак, каб больш ачарніць абраную ахвяру. Факты выкрыўляліся, а ў бальшыні выпадкаў былі выдуманыя, разьдзьмуханыя, хвальшывыя. Усё дадатнае ў лепшым выпадку прамоўчвалася або падавалася, як контррэвалюцыйная дзейнасьць, як «вылазкі ворагаў народу»... Па апублікаваньні гэтакага артыкулу, ахвяра тато-ж дня зьнікала ў падвалах НКВД. У турмах не ставала ўжо месца. Для трыманьня арыштаваных выкарыстоўваліся старыя напоўразваленыя склады, а ў Менску, прыкладам, выкарысталі таксама й будынак колішняга манастыра. Арышты праводзіліся ня толькі НКВД, але і ворганамі савецкае міліцыі пад прыклёпам крымінальных злачынстваў, а пасьля ўжо арыштаваных перадавалі паводля прызначэньня.

Усе беларускія наркомы, іхныя заступнікі, дырэктары трэстаў розных установаў былі арыштаваныя. На іхнае месца прызначаліся іншыя, што часта па вельмі кароткім часе таксама падпадалі пад арышты.

Цяжкім і жахлівым было палажэньне сям'і арыштаванага. Яна ставалася таксама ворагам народу, ня маючы ніякіх магчымасьцяў да далейшага існаваньня. Такіх людзей ня прыймалі ўжо нідзе на працу, а тых, хто працаваў, звальнялі, часамі падаючы нейкую пабочную прычыну, ато і зусім бяз прычынаў. Вялікую трагедыю перажывалі дзеці арыштаваных, палажэньне якіх было адчайным. З вышэйшых і спэцыяльных навуковых установаў іх выкідалі. Сям'я «ворага народу» была пазбаўленая навет тае абмежаванае савецкае законнасьці. Суседзі й знаёмыя ўхіляліся й не пазнавалі гэткіх людзей. Кажны ведаў і разумеў, што чужому гору памагчы нельга, а навесьці падозраньне на сябе самога вельмі лёгка.

У васабліва цяжкіх абставінах апынулася жыхарства прымежных з Польшчай раёнаў, дзе гаспадарыла прыгранічная ахова НКВД. Спустошваліся цэлыя сёлы. Арыштоўвалі ўсіх, на каго былі хоць найменшыя падозраньні ў ненадзейнасьці. Безь перабольшаньня можна сказаць, што больш за палавіну мускога жыхарства было паддадзена рэпрэсіям. Расправу над арыштаванымі праводзілі так званыя тройкі. Суд гэтых тройкаў быў канчальны й безапэляцыйны. Начамі грузавыя машыны вывозілі засуджаных на расстрэлы ў цёмныя лясы.

(Заканчэньне будзе)

# Сталінская спадчына

У сваім дакладзе на ўсесаюзнай нарадзе ў пытаньнях ідэялягічнай працы сакратар ЦК КПСС Ільлічоў, ня гледзячы на праводжаную ў Савецкім Саюзе дэсталінізацыю, узяў пад сваю абарону кнігу Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытаньне». «У Сталіна, — заявіў Ільлічоў, — ёсьць шэраг карысных і патрэбных твораў... Ёсьць кніга, напрыклад, «Марксізм і нацыянальнае пытаньне», аб якой добра выказваўся Ленін».

Чаму-ж загадчыку аддзелу агітацыі й прапаганды ЦК КПСС Ільлічову гэтак падабаецца кніга Сталіна? Ды таму, што ў гэтай кнізе, апублікаванай упяршыню ў Вене ў 1913-ым годзе і ўключанай у 1934-ым годзе ў кнігу Сталіна «Марксізм і нацыянальна-каляніяльнае пытаньне», былі ў кароткіх рысах ужо сфармуляваныя тыя прынцыпы камуністычнай палітыкі ашукваньня нацыянальнасьцяў, якіх трымаліся Ленін і Сталін пасьля захопу ўлады ў Расеі і якія цяпер і далей захоўвае і ўдасканальвае хрушчоўскае кіраўніцтва.

У гэтай кнізе Сталін вельмі нядвузначна паказаў, як камуністыя разумеюць лёзунг «самавызначэньне нацыяў» і як яны прапануюць выкарыстоўваць яго дзеля свайго прыходу да ўлады. «Сацыял-дэмакраты, — пісаў у 1913-ым годзе Сталін, — забавязаныя весьці такую агітацыю й зрабіць уплыў на волю нацыяў гэтак, каб нацыі прынялі форму, найбольш адпаведную інтарэсам пралетарыяту». Якраз таму, — цьвердзіў Сталін, — сацыял-дэмакратыя, змагаючыся за права нацыяў на самавызначэньне, у той-жа час будзе агітаваць, скажам, і супраць аддзяленьня Татараў (ёсьць на ўвазе Азэрбайджанцы), і супраць культурна-нацыянальнай аўтаноміі каўкаскіх нацыяў, бо і тое і другое, ня йдучы наўсуперак правом гэтых нацыяў, ідзе аднак наўсуперак «дакладнаму сэнсу праграмы», гэта значыць інтарэсам каўкаскага пралетарыяту».

Трымаючыся гэтага сталінскага рэцэпту выкарыстоўваньня лёзунгу «самавызначэньня», камуністыя перад Першай Сусьветнай вайной зьвязвалі пытаньне аб самавызначэньні нацыі ў Расеі зь неабходнасьцяй правядзеньня буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расеі, пасьля якой нацыі быццам-бы змогуць выкарыстаць сваё права на самавызначэньне. У пэрыяд Першай Сусьветнай вайны нацыянальныя лёзунгі камуністых зьмяніліся. Атрыманьне народамі Савецкага Саюзу права на самавызначэньне яны пачалі зьвязваць зь неабходнасьцяй зьдзейсьненьня сацыялістычнай рэвалюцыі і ўстанаўленьня дыктатуры пралетарыяту.

Пасьля таго, як у кастрычніку 1917-га году ўлада была захопленая бальшавікамі, шмат якія народы былой Расеі выкарысталі сваё права на самавызначэньне, якое крывадушна падтрымлівала да прыходу бальшавікоў да ўлады камуністычная прапаганда. У Закаўказьзі, на Паўночным Каўказе, у Туркестане, у Крыме, Татарыі і Башкірыі, на Украіне і Беларусі ўтварыліся нацыянальныя незалежныя і аўтаномныя рэспублікі — Грузінская, Армянская, Азэрбайджанская ў Закаўказьзі, Паўночна-Каўказкая, Тюрка-Татарская рэспубліка Ідэль Урал, Беларуская Народная Рэспубліка і Украінская Народная Рэспубліка. На тэрыторыі туркестанскага краю ў Каканзе была абвешчаная аўтаномія Туркестану, і ў стэпавым краі аўтаномія Казахстану. І такім чынам, народы былой Расеі зьдзейсьнілі сваё права на самавызначэньне. Як-жа паставілася да гэтага факту камуністычнае кіраўніцтва?

Яно стала дзеіць па таму самаму прынцыпу, які быў выказаны Сталінам у ягонай працы «Марксізм і нацыянальнае пытаньне». «Нацыя, — пісаў у гэтай кнізе Сталін, — мае права свабодна вызначыць свой лёс... Але гэта яшчэ не азначае, што яна павінна рабіць гэта пры ўсякіх умовах». Паводля цьверджаньняў Сталіна, у тых выпадках, калі аддзяленьне нацыі не адпавядае інтарэсам пралетарыяту, бальшавікі забавязаныя ўмешвацца ў справу і «пэўным спосабам зрабіць уплыў на волю нацыі».

Трымаючыся гэтага рэцэпту, бальшавіцкае кіраўніцтва, на чале якога стаяў Ленін, і «умяшалася ў справу», каб з дапамогаю збройнай сілы «зрабіць уплыў на нацыі, якія аддзяліліся». У выніку гэтага ўмяшаньня і жаданьня «зрабіць уплыў на волю нацыяў» былі гвалтам зьліквідаваныя ўсе незалежныя дзяржаўныя нацыянальныя ўтварэньні, якія ўзьніклі на тэрыторыі былой царскай Расеі ў канцы 1917-га і ў 18-ым гадох. Зьнішчыўшы нацыянальную незалежнасьць народаў, якія аддзяліліся, камуністычнае кіраўніцтва ўлучыла захопленыя рэспублікі ў склад Савецкага Саюзу і наўсуперак сапраўднасьці абвесьціла, што гэты саюз зьяўляецца дабраахвотным саюзам народаў.

Прынятая на 22-ім зьезьдзе праграма камуністычнай партыі бясспрэчна цьвердзіць, што «ліквідацыя праяваў нацыяналізму адпавядае інтарэсам усіх нацыяў і народнасьцяў СССР». «Кажная савецкая рэспубліка, — гаворыцца ў праграме, — можа далей разьвівацца і ўмацоўвацца **толькі** ў вялікай сям'і братніх сацыялістычных нацыяў СССР».

У тэй-жа праграме падкрэсьліваецца, што партыя будзе «весьці няпрымірэнчае змаганьне супраць праяваў і перажыткаў усякага нацыяналізму» і «вырашаць усе пытаньні нацыянальных узаемадачыненьняў з пазыцыі пралетарскага інтэрнацыяналізму», інакш кажучы з пазыцыяў не нацыянальных інтарэсаў кажнага народу, а выключна з пазыцыяў інтарэсаў міжнароднага камунізму.

Гэтыя прынцыпы нацыянальнай палітыкі нічым не адрозьніваюцца ад тых прынцыпаў, якія былі выказаныя Сталінам у ягонай працы «Марксізм і нацыянальнае пытаньне». Якраз таму Ільлічоў, крытыкуючы выказваньні Сталіна ў іншых пытаньнях, гэтак пахвальна выказаўся аб кнізе Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытаньне». Гэтым ён толькі пацьвердзіў, што палітыка хрушчоўскага кіраўніцтва ў нацыянальным пытаньні застаецца і далей сталінскай.

**К. Р.**

# Палка ў сьпіцах

Калі ў літаратурных дыскусіях няма крытычнай аб'ектыўнасьці, выяўляецца адна палітычная тэндэнцыя, дык нельга сказаць, што такія дыскусіі праходзяць на высокім ўзроўні. На IV пленуме кіраўніцтва Саюзу пісьменьнікаў БССР, пасьля дакладу Броўкі пачаліся дыскусіі, ці проста кажучы, выказваньні пісьменьнікаў аб шкодных уплывах культу Сталіна на беларускую літаратуру.

Пра шкоднасьць атмасфэры культу асобы для разьвіцьця крытыкі і літаратуразнаўства гаварыў Кандрат Крапіва. У сваёй прамове ён закрануў і літаратуру 20 гадоў. Ён адзначыў, што ў той час «прыйшло вельмі многа маладых пісьменьнікаў зь неўсталяваным сьветапоглядам».

«Меўся поўны ўплыў і нацыяналістычных канцэпцыяў. Мы гэта добра памятаем, — падкрэсьліў Кандрат Крапіва. — Некаторыя з гэтых канцэпцыяў знайшлі сваё адлюстраваньне і ў мастацкай творчасьці, некаторыя — у крытычных артыкулах».

Кандрат Крапіва бярэцца ў ролі партыйнага цэнзара ацэньваць беларускую літаратурную спадчыну.

«Некаторыя таварышы, — кажа ён, — узьнімаюць пытаньне перагляду нашых ацэнак літаратурнага працэсу... Узьнімаюць і пытаньне аб вывучэньні творчасьці Альбэрта Паўловіча і Алеся Гаруна».

Здавалася-б што тут дрэннага? Гэтае пытаньне цяпер сваечасовае і Кандрат Крапіва — ведамы беларускі сатырык і драматург, мусіў-бы падтрымаць і дапамагчы далейшаму працэсу рэгабілітацыі і аднаўленьня пісьменьнікаў, незаслужана выкінутых зь гісторыі літаратуры.

Нашаніўскага пісьменьніка Альбэрта Паўловіча ў 1957 годзе прыгадала газэта «Літаратура і Мастацтва». Пасьля таго аб ім нічога ня пісалі. І цяпер, нарэшце, гэтага здольнага гумарыстага прыгадаў калега — сучасны гумарысты. Аднак, нажаль, чаго не спадзяваліся, Кандрат Крапіва цынічна, з грубым сарказмам заявіў: «А што вывучаць у Альбэрта Паўловіча — «Торбу ракаў»?

Калі ўжо гэтак прымітыўна падыходзіць да творчасьці пісьменьніка, дык можна і аб Крапіве сказаць: «А што вывучаць у яго — «Байку аб балярыне»?

З такой меркай, бязумоўна, падыходзіць нельга. Дык навошта Крапіва прафануе сябе? Ён-жа ведае, што Альбэрт Паўловіч — нашанівец, што ён выдаў у 1910 годзе зборнік гумарыстычных вершаў «Снапок», у якім зьмешчаныя такія выдатныя творы, як «Пан і акуляры», «Зь кірмашу», «Пястун» і «На рынку». Альбэрт Паўловіч ў 1919 годзе напісаў п'есу «Васількі». Ён быў і неблагім перакладчыкам. Ужо навет з пункту гледжаньня гістарычнага гэты аўтар заслугоўвае належнай пашаны і ўвагі.

А як-жа крытычна паставіўся Крапіва да другога паэты — Алеся Гаруна? Тут, як бачым, падыйшоў ён зь іншага боку.

«Што-ж датычыць Алеся Гаруна, — сказаў Кандрат Крапіва, — то ня трэба забываць, што ён па сваёй партыйнай прыналежнасьці зьяўляўся эсэрам. Ён актыўна змагаўся супраць савецкай улады, быў адным з арганізатараў на Беларусі белай арміі, акая існавала для таго, каб змагацца супраць чырвонай арміі».

Так, Алесь Гарун змагаўся супраць савецкай улады. Аднак ён быў арганізатарам ня белай арміі, а беларускага войска, якое фармавалася ў пачатку польскай акупацыі. Алесь Гарун стаяў на чале Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску. Ён быў адным з актыўных змагароў за нацыянальную справу і незалежную беларускую дэмакратычную дзяржаву. Але ці гэта можа быць падставай для сумленнага крытыка, каб выкрасьліць пісьменьніка наагул зь гісторыі беларускай літаратуры? Беларускія пісьменьнікі-камуністыя часта спасылаюцца дзеля прыкладу на расейскую літаратуру. Дык чаму яны не заўважаюць там такога факту, як рэгабілітацыя пісьменьнікаў, прыналежных навет да рэакцыйных, манархісцкіх колаў? Прыгадаем Кандрату Крапіве такіх пісьменьнікаў, як Бунін, Гумілёў, Аляксандр Чорны. Яны былі непрымірэнчымі ворагамі камунізму, а цяпер іхная творчасьць у Савецкім Саюзе, хоць і ня ў цэлым, выдаецца асобнымі кнігамі.

А чаму на Гаруна — паэту з работніцкай ідэялёгіяй — Крапіва кладзе та-

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

## Гістарычная неабходнасьць

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

— ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны й незалежны край. Ад гэтага часу Беларусь абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай.»

А далей — **«Самі народы Беларусі... пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі».**

Думка выразная й нядвузначная: толькі ў незалежнай беларускай дзяржаве ейныя грамадзяне здолеюць свабодна выбіраць як нутраны лад, так і партнэраў ды формы ў галіне міжнароднага супрацоўніцтва — лад, партнэраў і формы, якія запраўды адпавядаюць інтарэсам беларускага народу.

Незалежнасьць як нашага, так і іншых паняволеных народаў — гэта не абстрактны ідэял: гэта гістарычная неабходнасьць.

**Ул. Нёмановіч**

# «Акоў паломаных жандар»

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

«Пасьля роспуску «кангрэсу» нацыяналістыя сталі на шлях адкрытага ўзброенага змаганьня супраць Савецкай улады. Асноўныя іх сілы ўліліся ў беларускі корпус Доўбар-Мусьніцкага....

«Захапіўшы пры дапамозе акупантаў уладу, «Рада» аддавала й прадавала свабоду й незалежнасьць беларускага народу. Яна ўступала ў перамовы зь імпэрыялістычнай Нямеччынай і намагалася заключыць зь ёй згоду...

«Беларускія нацыяналістыя таптлі парогі таксама й францускіх і ангельскіх міністраў, абяцалі выгадныя барышы імпэрыялістам ЗША...» (С. Р. Вихарев. Суверенитет Белорусской ССР в составе Союза ССР, Менск, 1958, б. 17, 19-20).

«Прыгнятаць рабочых і працоўных сялян акупантам дапамагалі іх верныя паслугачы — беларускія буржуазныя нацыяналістыя, якія спадзяваліся стварыць пад аховай акупацыйнай арміі буржуазна-памешчыцкую дзяржаву. 25 сакавіка 1918 г. беларускія нацыяналістыя апублікавалі тэкст «Статутнай граматы», у якой абвяшчалі «незалежнасьць» Беларусі й заклікалі беларускі народ адмовіцца ад Савецкай улады. Прыкрываючыся фразамі аб незалежнасьці Беларусі, яны імкнуліся парваць шматвяковыя сувязі працоўных мас Беларусі й Расеі й ператварыць Беларусь у калёнію капіталістычных дзяржаў...» («Гісторыя БССР, т. II, б. 93).

«Беларускія буржуазныя нацыяналістыя — агідныя лакеі германскіх і іншых імпэрыялістых — імкнуліся адарваць Беларусь ад РСФСР, прадаць беларускі народ у няволю іншаземным захопнікам. Працоўныя масы Беларусі на сваім жыцьцёвым вопыце пераконваліся ў тым, што буржуазныя нацыяналістыя зьяўляюцца іх лютымі ворагамі. Беларускі народ бачыў магчымасьць захаваньня сваёй свабоды й незалежнасьці толькі ў цесным адзінстве зь вялікім расейскім народам...» (Н. Паўлава й М. Баранава, «Барацьба беларускага народу супраць нямецкіх захопнікаў ў 1918 годзе», **Настаўніцкая газэта,** 31. 10. 1958).

Так у васнаўным выглядае гісторыя беларускага нацыянальна-вызвольнага руху ў савецкім насьвятленьні. Абвінавачваньні ў «здрадзе» «беларускіх буржуазных нацыяналістых» даволі сьмешныя, як гэты нікуды ні прышыць ні прылатаць «беларускі корпус Доўбар-Мусьніцкага». Зьвяртаньне за дапамогай да тых ці іншых чужаземных дзяржаваў, перамовы з апошнімі дзяржавамі, што, ведама, было неабходным у тых умовах расейскага панаваньня й акупацыі, раптам зьяўляецца «самапрадаваньнем у чужую няволю». Няўжо-ж гэтыя «буржуазныя нацыяналістыя» імкнуліся таксама прадаць Беларусь у няволю расейскага імпэрыялізму, калі яны вялі перамовы з Часовым расейскім урадам, а потым і з Урадам Леніна? З другога боку, якую мы павінны правесьці розьніцу між «імкненьнем адарваць Беларусь ад РСФСР» і, калі запраўды былі такія інтэнцыі, «імкненьнем прадаць Беларусь у няволю», напрыклад, Польшчы ці Нямеччыны? Як гэта гаворыцца, ад перастаноўкі складнікаў сума не зьмяняецца, і тая ці іншая няволя заўсёды застаецца няволяй. Таксама застаецца здрадніцтвам незалежна прапольска-нямецкае ці прарасейскае здрадніцтва. Аднак Масква ў гэтым заўважае агромную розьніцу, і здрадніцтвам яна ўважае ня толькі «імкненьне адарваць Беларусь ад Расеі й ....прадаць яе...», але й імкненьне зрабіць Беларусь незалежнай, да чаго імкнуліся Першы Ўсебеларускі Кангрэс і Рада й Урад БНР. Гэта найбольшае здрадніцтва ў вачох Масквы, бо чамусьці гэтым здрадніцтвам ня было расейскае абрэзаньне БССР да 6 паветаў аднае Менскае губэрні, расейскі распадзел Беларусі між РСФСР, Польшчай, Летувой і Латвіяй. Запраўды, вельмі характэрнае прызнаньне: «Беларускі народ бачыў магчымасьць захаваньня сваёй **свабоды й незалежнасьці** толькі ў цесным адзінстве зь **вялікім** расейскім народам»! З гэтага прызнаньня выцякае ўсё іншае: бэшчаньне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, прышываньне яму розных эпітэтаў, шавіністычная нянавісьць і нязноснасьць.

Пачаўшы разгляд гэтае расейскае гора-цывілізацыі нашага XX стагодзьдзя лірыкай Максіма Багдановіча пра «жыцьцёвую сілу зярняткаў», пра сілу нашага нацыянальна-вызвольнага руху, хацелася-б закончыць гневам Янкі Купалы, што быў выказаны з падобнае нагоды ў вершы «Акоў паломаных жандар»:

...Былых ня выклічаш вякоў
І ты, Масквы каронная гразь,
Парваных ня скуеш акоў,
Зь якой брахнёю ня вылазь!

**П. Урбан**

## *Зь беларускага жыцьця*

# Уладыка Чэслаў у Бірмінгаме й Брадфордзе

На запросіны Беларусаў зь Бірмінгаму й Брадфорду Яго Дастойнасьць Уладыка Чэслаў — Апостальскі Візітатар для Беларусаў адведаў беларускія калёніі ў абодвых названых гарадох. І гэтыя адведзіны ў абодвых гарадох ператварыліся ў велічныя рэлігійныя й нацыянальныя беларускія ўрачыстасьці.

У Бірмінгам Уладыка Чэслаў прыехаў у суботу 9-га сьнежня вечарам, вітаны на станцыі прадстаўнікамі мясцовае беларускае калёніі. Раніцаю ў нядзелю 10-га сьнежня ён гутарыў зь мясцовым ангельскім каталіцкім біскупам Я. Э. Францішкам Грымшоў аб душпастырскіх патрэбах Беларусаў наагул, а ў Бірмінгаме ў васаблівасьці.

А гадзіне 1-ай па паўдні Ўладыка Чэслаў у суслужэньні айцоў Льва Гарошкі і Аляксандра Надсона адправіў урачыстую Службу Божую ў царкве сьв. ап. Пятра. Пасьля Эвангельля Ўладыка Чэслаў сказаў зьмястоўнае казаньне аб сучасным рэлігійным становішчы і заклікаў дбайліва сьцерагчы беларускія рэлігійныя традыцыі. Прыгожа сьпяваў невялікі хор з Марыйскага Дому пад кіраўніцтвам сп. Гая Пікарда.

Пасьля Службы Божае Беларусы зь Бірмінгаму і ваколіцы наладзілі ў парахвіяльнай залі прыняцьце па чэсьць Дастойнага Госьця. Пры ўваходзе ў залю ўладыку Чэслава сустрэў з хлебам і сольлю сп. М. Баяроўскі й прывітаў ад імя ўсяе бірмінгамскае беларукае грамады. У залі ўжо чакаў пачастунак, падрыхтаваны руплівымі рукамі гаспадыньң. Перакуску ад часу да часу перарывалі прамовы, у якіх Беларусы выказвалі сваю радасьць і падзяку Дастойнаму Госьцю за адведзіны й за багаслужэньне ды падчырквалі важнасьць гэтае падзеі. Уканцы Ўладыка Чэслаў із свайго боку падзякаваў за сардэчнае прыняцьце, асабліва тым, што ўлажылі шмат ахвярнае працы пры наладжаньні такое прыгожае ўрачыстасьці; пры тым ён зьвярнуў увагу на часта недаацэньваны мамэнт у жыцьці эміграцыі — калі суродзічы расьсеяныя і падзеленыя між сабою, дык яны паволі і бясьсьледна зьнікаюць у вакружаным асяродзьдзі; і наадварот — калі злучаныя ці то супольнаю малітваю ў царкве, ці арганізацыйнымі лучнікамі, тады твораць вялікую сілу. І сапраўды, невялікая беларуская грамада зь Бірмінгаму, папоўненая Беларусамі з бліжэйшых гарадоў і госьцямі тварыла ў той дзень паважную грамаду, аб якой назаўтра загаварыла амаль уся штодзенная бірмінгамская прэса, падаючы большыя або меншыя рэпартажы аб беларускай рэлігійнай урачыстасьці.

Празь месяц — 13 студзеня Яго Дастойнасьць уладыка Чэслаў завітаў у Брадфорд. На станцыі яго ўжо чакалі і шчыра віталі прадстаўнікі мясцовае беларускае грамады, а каля станцыі ўжо чакалі аўтамашыны, каб адвесьці Дастойнага Госьця і ўсіх тых, хто зь ім прыехаў, на загадзя прызначаныя кватэры.

Назаўтра ў нядзелю 14-га студзеня раніцаю ўладыка Чэслаў меў доўгую гутэрку зь Лідскім каталіцкім біскупам Я. Э. Юрым Дваерам аб беларускім рэлігійным жыцьці і патрэбах, знаходзячы ў яго шчырае зразуменьне й запэўненьне прыязнага падтрыманьня.

**А першай гадзіне па паўдні ў царкве сьв. Патрыка загучэлі нячуваныя там дагэтуль мэлёдыі — гэта ўладыка Чэслаў у суслужэньні а. Льва Гарошкі і а.** Аляксандра Надсона адпраўляў урачыстую Службу Божую для Беларусаў у прысутнасьці Лідскага біскупа Я. Э. Дваера і яго генэральнага Вікарага. Прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Гая Пікарда. Пасьля Эвангельля Я. Э. Дваер зьвярнуўся да Беларусаў з прывітальным словам, выказваючы сваю радасьць, што ў царкве моляцца супольна і каталікі й праваслаўныя. Уканцы Службы Божае ўладыка Чэслаў падзякаваў паангельску Лідскаму біскупу, а затым зьвярнуўся пабеларуску да суродзічоў з прыгожым і зьмястоўным архіпастырскім словам, асьцерагаючы перад яўнымі і прыхаванымі ворагамі рэлігіі.

Адразу пасьля Службы Божае Беларусы й госьці накіраваліся ў Беларускі Дом, дзе ўправа Брадфордскага Аддзелу ЗБВБ наладзіла прыняцьце ў чэсьць Дастойнага Госьця. Пры ўваходзе ў Дом уладыку Чэслава прывітаў з хлебам і сольлю старшыня Адзьдзелу, а тымчасам у залі Дому на сталох ужо чакала гасьцей сытная перакуска, падрыхтаваная руплівымі рукамі ахвярных жанчын. Сьледам за перакускаю пайшлі прывітальныя словы й падзякі ад Беларусаў і ад госьцяў, поўныя шчырае радасьці й прызнаньня. Міла было слухаць прывітаньні ад украінскіх госьцяў.

У прыязнай і цёплай атмасфэры час адведзінаў уладыкі Чэслава прайшоў вельмі хутка, але пакінуў па сабе незабыўны ўспамін ува ўсіх прысутных. Ува ўсіх прамовах і гутарках так у Брадфордзе, як і ў Бірмінгаме ясна выяўлялася, што ў сэрцах расьсеяных па ангельскім абшары Беларусаў моцна жыве Беларусь, а ў душах штораз мацней адзываецца зварот да Бога, каб Ён паблаславіў нашыя імкненьні здабыць незалежнасьць і волю для Роднага Краю.

**Л. Прысутны**

# 13-ы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў Канады

Хаця сам лік «трынаццаты» гучыць і ня гэтак ужо міла, усё-ж 13-ы Зьезд адбыўся вельмі добра. Гэтая вялікая падзея ў жыцьці Беларусаў Канады адбылася 27-28-га студзеня сёлета ў памяшчэньні Беларускага Грамадзка-Рэлігійнага Цэнтру ў Таронта. Старшыня Галоўнае Ўправы ЗБК сп. М. Ганько распачаў Зьезд прывітальнымі словамі, затым, згодна мясцовае беларускае традыцыі, удзельнікі Зьезду прасьпявалі «Беларусь — наша Маці-Краіна». Пры гэтым быў зачытаны, прысланы з гэтае нагоды, прывітальны ліст Уладыкі Васіля зь Нью Ёрку. Выбраная мандатная камісія ў складзе сп. сп. д-ра Б. Рагулі, М. Шуста й А. Протаса занялася падлікам мандатаў прысутных сяброў, дэлегатаў і ўпаўнамочаных, і падала вынікі, абвесьціўшы, што Зьезд зьяўляецца правамоцны. У прэзыдыюм Зьезду ўвайшлі сп. сп. К. Акула (старшыня), Надзя Барановіч (сакратар) і Б. Я. (сябра). Далей былі выбраныя Бюджэтна-Плянавая й Статутова-Рэзалюцыйная камісіі, у якія ўвайшлі сп. сп. д-р Б. Рагуля, д-р В. Жук, Б. Я., М. Шуст, А. Протас, М. Ганько, Н. Сільвановіч і Л. Жураўскі.

Першым зрабіў справаздачу зь дзейнасьці Лёнданскага аддзелу ЗБК сп. М. Шуст, затым сп. М. Ганько зачытаў пісьмовую справаздачу Садбурскага аддзелу, і, як выявілася, аддзелы працавалі добра: падтрымоўвалі БАПЦ, адзначалі нацыянальныя гадавіны, аказвалі дапамогу патрабуючым суродзічам, навязвалі й замацоўвалі кантакты зь іншымі этнічнымі арганізацыямі, распаўсюджвалі беларускую літаратуру й прэсу. Асабліва садбурцы выявіліся вельмі актыўнымі ў вонкавай рэпрэзэнтацыі. Не магла быць зробленая справаздача зь дзейнасьці адделу ў Монтрэалі, бо, з прычыны далёкай адлегласьці, ня было адтуль дэлегата. За Таронцкі аддзел і Галоўную Ўправу была зробленая справаздача кажным сябрам Управы паасобку: сп. Г. Барановіч (скарбнік), М. Кулеша (арганізацыйны рэфэрэнт), Н. Сільвановіч (сакратар), А. Маркевіч (вонкавыя сувязі). Усе справаздачы напасьледак абагульніў уступаючы старшыня сп. М. Ганько. Як выявілася із справаздачаў, і мінулы год Таронтаўцы прарабілі шмат работы, не шкадуючы ані часу, ані энэргіі, ані выдаткаў. Шмат папрацаваў сп. Г. Барановіч разам із сп-яй Надзеяй Барановіч пры ладжаньні розных імпрэзаў (12 вечарынаў, 5 пікнікаў, 1 сяброўскі вечар, ялінка й інш.), давёўшы, як скарбнік, прыход да 3 339.50 дал. Але й усе іншыя паважна працавалі таксама, і наагул справы йшлі добра, хіба толькі за выключэньнем культурна-асьветнае дзейнасьці.

Вось важнейшае зь дзейнасьці Галоўнае Ўправы: супольнае з БНА ладжаньне нацыянальных сьвяткаваньняў, 6 паседжаньняў Управы, выпуск 4-ох камунікатаў, удзел у сьвяткаваньнях іншых нацыянальнасьцяў, арганізацыя выстаўкі беларускіх кніжак пры Таронцкай публічнай бібліятэцы, актыўны ўдзел (разам зь Лёнданскім аддзелам) у прыняцьці для прэм'ера Канады Дыфэнбэйкера ў Таронта, удзел у прыняцьцях для Пірсана, Дынсдэйла, удзел у вадкрыцьці Канадыйскага Фэдэральнага Парляманту, удзел у розных іншых прыняцьцях, мітынгах і канфэрэнцыях, належаньне да арганізацыі Канадыйскіх Славістых і да Камітэту сьвяткаваньня стагодзьдзя Канадыйскае Нацыі (1867–1967), пастачаньне беларускіх кніжак, грамафонных кружэлак і інш. для розных бібліятэкаў, распаўсюджваньне беларукай прэсы шляхам замены на іншамоўную, інфармацыі аб Беларусі й Беларусах Канады ў канадыйскіх выданьнях і пад., аб чым можна было рэгулярна чытаць у справаздачах, друкаваных у «Бацькаўшчыне». Вялікім цяжарам была сплата й утрыманьне дому Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру, што ляжала ў васнаўным на плячох Таронтаўцаў. Пасьля кароткай дыскусіі над справаздачамі, Наглядная Рада зачытала пратаколы собскіх паседжаньняў-рэвізіяў і схарактарызавала дзейнасьць ЗБК за справаздаўчы пэрыяд як карысную, ды запрапанавала для ўступаючай Галоўнай Управы абсалюторыюм з падзякаю, што й было прынята аднагалосна.

Зьезд прыняў папраўкі й зьмены ў статуце ЗБК, а таксама прыняў большынёй галасоў зьмену ў назове арганізацыі, якая пабеларуску мае гучэць Згуртаваньне Беларусаў Канады, а паангельску — Byelorussian Canadian Alliance. Бюджэт ЗБК на бягучы год быў прадугледжаны на звыш двух тысяч даляраў, а прыняты плян працы абяцае большую актыўнасьць у культурна-грамадзкай, палітычнай і рэлігійнай дзялянках. ЗБК мае прыняць актыўны ўдзел у наладжаньні 5-ай сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, якая ў бягучым годзе мае адбыцца ў Таронта, ды правесьці Беларускі Этнічны Тыдзень пры Міжнародным Інстытуце восеньню сёлета. Будзе прысьвечана больш увагі аддзелам ЗБК шляхам частых наведваньняў іх з боку Галоўнае Ўправы. Адначасна было пастаноўлена, што ЗБК будзе й надалей стаяць на прынцыпах Рады БНР і падтрымліваць ейную дзейнасьць на палітычнай ніве маральна й матарыяльна. У новую Галоўную Ўправу былі выбраныя сп. сп. В. К. (старшыня), М. Ганько, Н. Сільвановіч, Б. Я., М. Кулеш і К. Акула. У Наглядную Раду ўвайшлі сп. сп.: д-р В. Жук-Грышкевіч, Б. Лішчонак і А. Маркевіч, а ў Сяброўскі Суд сп-ня В. Грыцук, сп. А. Протас і сп. Я. Чорны.

Зьезд закончыў свае працы адсьпяваньнем нацыянальнага гімну й пажаданьнямі новай Галоўнай Управе плённае працы. Варта ўспомніць, што ў першы дзень Зьезду вечарам адбылася даволі вясёлая вечарына, а наступнага дня раніцай а. прат. Міхал прыгожа адправіў для ўдзельнікаў Зьезду Божую Службу.

☆

У нядзелю 4-га лютага адбылося першае паседжаньне новаабранай Галоўнай Управы ЗБК, на якім адбылася перадача справаў старой Галоўнай Управай, абгаварваўся плян працы на бліжэйшыя тры месяцы, а таксама адбыўся распадзел функцыяў між сябрамі Галоўнае Ўправы ў наступным парадку: сп. сп. В. К. — старшыня (выбраны Зьездам), сп. М. Ганько — заступнік старшыні й скарбнік, сп. Н. Сільвановіч — сакратар, сп. М. Кулеш — арганізацыйныя справы й гаспадар БРГЦэнтру, Б. Я. — сацыяльныя справы й сувязь з парахвіяй, сп. К. Акула — вонкавыя сувязі. На прапанову Галоўнае Ўправы сп. А. Маркевіч ахвотна пагадзіўся й надалей аказваць дапамогу ў вонкавых сувязях ЗБК.

**Таронтавец**

### «ВІЛЬНЭ СЛОВО» АБ ДАКЛАДЗЕ ПРЭЗ. АБРАМЧЫКА

Таронцкая ўкраінская газэта «Вільне Слово» ў лютым зьмясьціла абшырны артыкул аб дакладзе сп. Прэзыдэнта Рады БНР М. Абрамчыка, зробленым ім нядаўна для прадстаўнікоў украінскіх арганізацыяў у Нью Ёрку. Газэта падае, што Прэзыдэнт Абрамчык высьвятліў сучасны стан беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, ягоныя посьпехі й недахопы ды нарысаваў далейшыя пэрспэктывы змаганьня з паняволькікам нашай Бацькаўшчыны.

Іншы ўкраінскі часапіс «Наша Мэта» зьмясьціў у лютым артыкул аб а. Я. Гэрмановічу разам зь ягоным партрэтам.

# Ліст у Рэдакцыю

### ПАВАЖАНЫ СПАДАРУ РЭДАКТАРУ

Дазвольце зрабіць маленькую папраўку да артыкулу Ст. Крушыніча «З нагоды «рэгабілітацыі» Браніслава Тарашкевіча», надрукаванага ў № 4 (588) «Бацькаўшчыны».

У гэтым артыкуле памеж іншага кажацца, што Тарашкевіч «нарадзіўся... ў засьценку Мацюлішкі на Віленшчыне». Запраўды-ж ён паходзе із сяла Чарнулішкі Лаварыскае вобласьці Віленскага пав. і там-жа нарадзіўся. Ведаю я гэта добра, бо ў 1919 г. разам із Б. Тарашкевічам я быў у хаце ягоных бацькоў.

Адлі ў тым-жа артыкуле кажацца, што Б. Тарашкевіч, па сканчэньню ўнівэрсытэту, быў два гады прыватдоцэнтам. Думаю, што гэта абмылка, бо ў 1918 г. ён прыехаў із Пецярбургу на ўстаічнае жыцьцё да Вільні, дзе я часта зь ім бачыўся, і ад яго ані ад іншых я ня чуў, каб ён быў прыватдоцэнтам, а на сваёй «Беларускай граматыцы для школ» ён надрукаваў у тым-жа годзе: «Б. Тарашкевіч, кандыдат філёлёгіі».

З пашанаю

**Я. Станкевіч**

### ПРОСЬБА

Доктар Г. Пічура актуальна падрыхтоўвае да друку працу зь гісторыі царкоўнай музыкі на Беларусі. З прычыны нястачы матарыялаў, ён ласкава просіць беларускіх музыказнаўцаў на эміграцыі навязаць зь ім сувязь, а таксама пераслаць матарыялы з жыцьця й дзейнасьці кампазытара М. Равенскага, былога дырыгента ў Навагрудку А. М. Валынчыка (з 1947 г. прафэсара музыкі ў Тэалягічным інстытуце ў Жыровічах) і дзячка Якава Семашкі з Далятычаў, высланага ў 1940 годзе. Просіцца зьвяртацца на адрыс:

Dr. Gavrijl Pichura
„Marian House"
Holden Avenue
London, N. 12
England

# Бацькі Беларусы!

Кіраўніцтва Беларускага Інтэрнату ў Лёндане ўжо распачало прыняцьце заяваў на 1962/63 школьны год. У Інтэрнат прыймаюцца хлапцы ад 8 да 13 гадоў так з Англіі, як і зь іншых краінаў. Тэрмін складаньня заяваў для кандыдатаў з-паза Англіі да 31-га траўня, а для кандыдатаў з Англіі тэрмін складаньня заяваў канчаецца 30-га чэрвеня.

Да заявы трэба далучыць школьнае пасьведчаньне з тае школы, якую вучань наведваў сёлета, а так-жа мэтрыку хросту.

Навуку хлапцы атрымоўваюць у прыватнай ангельскай каталіцкай школе, а беларускую мову, гісторыю й геаграфію Беларусі вывучаюць у Інтэрнаце.

Аплата за навуку і ўтрыманьне ў Інтэрнаце плаціцца ў трох ратах па 40 анг. фунтаў кажная або месячна.

Па дакладнейшыя інфармацыі зьвяртацца да Кіраўніка Інтэрнату а. Язэпа Гэрмановіча на адрыс:

Rev. Joseph Hermanovič
41 Holden Rd.,
LONDON, N. 12.
England



### ДА НАШЫХ ПАДПІШЧЫКАЎ

**Гэтым напамінаецца й просіцца ўсіх нашых падпішчыкаў урэгуляваць гадавую падпісную аплату й залежнасьць за газэту, пераказваючы грошы на адрыс прадстаўнікоў «Бацькаўшчыны» ў вадпаведных краінах або беспасярэдна на конто газэты.**

**Адміністрацыя**


БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.


*Фэльетон*

# Будуем камунізм

— Ну, Ганупя, урэшце памыемся! — радасна гукнуў Рыгор Канцавы, просты будаўнік камунізму ў калгасе «Бальшавіцкая перамога» Хойніцкага раёну. — Сяньня на калгасным сходзе было пастаноўлена пабудаваць лазьню ў прысьпешаным парадку!

Ганупя пэсымістычна махнула рукой, выцягнула зь печы вялікі саган вару, пераліла яго ў начоўкі ды кажа:

— Пакуль сонца ўзыйдзе, раса вочы выесьць. Дык вось мыйся, Рыгорка, у парадку хатняй саматужнай самадзейнасьці. Мыла не дазавязьлі, дык вось табе змылак — ашчаджай, каб і мне крыху засталося.

— Нічога, Ганупя, будуем сьветлую будучыню камунізму! — гукнуў з начовак Рыгор.

Гэтая гутарка адбылася дакладна тры гады таму. І вось у наступную сыботу Рыгор Канцавы будзе купацца ў тыхжа начоўках. Лазьня будуецца запраўды ўдарнымі тэмпамі: Пакуль-што ёсьць ужо фундамант. Нездарма калгас называецца «Бальшавіцкая перамога»..

Аналягічныя клопаты турбуюць і жыхароў вёскі Амельна Пухавіцкага раёну. Праўда, там аб лазьні яшчэ не гаварылася, але затое, згодна зь лёзунгам: «Прадуктыўна працаваць — культурна адпачываць», пастанавілі пабудаваць клюб. Будуюць ужо тры гады з хвосьцікам, але вышэй фундамантаў не ўзьняліся. Жыхары вёскі пацяшаюцца, што можа ў 1980-ым годзе, разам з завяршэньнем пабудовы камунізму, яны адсьвяткуюць адкрыцьцё клюбу. А калі-б у міжчасе нешта здарылася, і гэтыя два сьвяты не адбыліся — людзі тымбольш радасна адсьвяткавалі-б гэтую падзею.

А вось запраўдная трагэдыя здарылася зь селянінам Саўчанкам. Пасьля доўгіх турботаў яму пашанцавала купіць ў Чэрыкаве боты. З гэтай радасьці ён гатоў быў паверыць, што «жыць стала весялей». Але ягоная радасьць была вельмі-ж кароткай. Адразу ў магазыне ён абуў новыя боты і пайшоў у сваю вёску Мядзьвежжа. Спачатку боты прыемна скрыпелі — аж сэрца радавалася. Але ў палавіне дарогі з Чэрыкава да Мядзьвежжа боты пачалі няпрыемна хлюпаць. Саўчанка глянуў на боты і з жахам сьцьвердзіў, што падэшва адвалілася.

Вось, як апісвае гэтую прыкрую прыгоду сам Саўчанка:

«Сеў я на камень, засумаваў. Потым падумаў: дай даведаюся, што за майстры мае боты рабілі? Паглядзеў на штамп там значыцца: «Фабрыка „Красный Октябрь"»...

Што ж — назоў хвабрыкі гаворыць сам за сябе, або, лепш кажучы, гаворыць усё...

Праўда, яшчэ можна было-б дзівіцца, чаму віцебская хвабрыка называецца парасейску. Але людзі ў Беларусі перасталі ўжо дзівіцца — да ўсяго прывыклі...

Вось некалькі малюначкаў з савецкай рэчаіснасьці. Калі-б хто ня верыў, хай прачытае 41-шы нумар «Калгаснай праўды». Падобных кур'ёзаў у Савецкім Саюзе мільёны.

«Чалавек — як гэта гучыць горда!» «Усё для савецкага чалавека!» — гэта лёзунгі, якія маюць заахвочваць людзей да будаваньня «сьветлай будучыні камунізму». Але гэтая «сьветлая будучыня» пакуль-што даволі-ж цемнаватая. А Рыгор Канцавы ўсё яшчэ купаецца ў начоўках...

**Н. Л.**